

# Наша слова

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 10 (326) 6 — 12 сакавіка 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў



## СА СВЯТАМ, МІЛЫЯ ЖАНЧЫНЫ, З ВЯСНОЮ!

## ПОСТУП ТЫДНЯ



●**3 сакавіка споўнілася 930 гадоў з часу бітвы на рацэ Нямізе** — падзеі, якая дзякуючы "Слову аб палку Ігаравым", прызнана днём адліку пісанай гісторыі Менска. Нацыянальна свядомыя грамадзяне горада, у пераважнасці моладзь, адзначылі гэтую дату масавым шэсцем і тэатралізаваным прадстаўленнем.

●***У гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў сказаў:*** *"Добразычлівасць, працавітасць, абавязковасць, надзейнасць, павага да іншых цэняцца заўсёды і ўсюды. Таму я люблю сваю беларускую Айчыну. І лічу, што кожны, хто жыве ў Беларусі, павінен ведаць як беларускую, так і рускую мову, паколькі з Расіяй мы звязаныя вельмі моцна... Весці ж толькі па-беларуску заканатворчую работу пакуль немагчыма. Тым не менш, у парламенце дакументы друкуюцца як па-беларуску, так і па-руску". Не сказаў толькі сп. А. Малафееў, што ў часы, калі ён быў першым сакратаром кампартыі БССР, у тагачасным Вярхоўным Савеце хаця б ягоны Старшыня дзеля камуфляжу вёў пасяджэнні на беларускай мове.*

●**Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з міністрам Расійскай Федэрацыі па супрацоўніцтве з дзяржавамі-ўдзельніцамі СНД Аманам Тулеевым** адзначыў, што за год, які мінуў пасля падпісання Дагавору аб утварэнні Супольнасці Беларусі і Расіі, бакі не дабіліся асаблівых поспехаў у справе рэальнага збліжэння дзвюх краінаў. З гэтай думкай пагадзіўся і Аман Тулееў, падкрэсліўшы, што ў асноўным не выканаў сваіх абяцанняў расійскі бок.

●***Памочнік Прэзідэнта Беларусі Сяргей Посахаў у адной з гутарак з карэспандэнтамі пра інтэграцыю Расіі і Беларусі сказаў:*** *"Памятаеце, Б. Ельцын гаварыў аб неабходнасці выраўноўвання рэформаў у нашых краінах? Дык у дадзеным выпадку трэба ведаць, што адбываецца на справе. Сёння выйшаў на забастоўку Чалябінскі трактарны завод, што, мы хочам, каб і наш выйшаў? Расійская армія вядома ў якім стане, наша беларуская армія зусім у іншым стане: афіцэры атрымліваюць зарплату, ідзе баявая падрыхтоўка... Нашы пенсіянеры своечасова атрымліваюць пенсію, вялікую ці малую, але атрымліваюць. Урачы і настаўнікі таксама зарплату маюць. Што, мы хочам, каб нашыя настаўнікі, як у Расіі, праводзілі ўсеагульную забастоўку?*"

●**Уступныя экзамены ў ВНУ краіны апошнім часам знаходзяцца пад пільнай увагай нашага Прэзідэнта.** Аб сваім намеры і ў далейшым сачыць за сітуацыяй кіраўнік дзяржавы яшчэ раз заявіў у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. З улікам вопыту мінулага года ў працэдуру праверкі ўносяцца пэўныя карэктывы. Прымаць удзел у ёй разам з выкладчыкамі будуць студэнты, а таксама прадстаўнікі новай маладзёжнай арганізацыі, якая цяпер ствараецца. Усё гэта добра, але ці прэзідэнцкая гэта справа сачыць за ўступнымі экзаменамі ў ВНУ?

●***65 гадоў назад выйшаў першы нумар "Літаратуры і мастацтва", газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі.*** *Да шматлікіх віншаванняў, якія гучаць у гэтыя дні ў адрас тыднёвіка, далучаецца і "Наша слова". Зычым і надалей "ЛіМу" плённай працы на карысць нашай Айчыны!*

**Шаноўныя чытачы!** Ідзе падпіска на "Наша слова" на другі квартал 1997 года. Калі вы яшчэ не падпісаліся на "НС", раім гэта зрабіць неадкладна ў любым паштовым аддзяленні. Наш індэкс ранейшы — **63865.**

Падрыхтаваў В. Ш.

# Беларусь не павінна застацца без беларусаў!

*Па сутнасці*

*Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь*

## ЗАЯВА

### Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Сёння лінгвацыд беларускай нацыі найбольш выразна праяўляецца ў сферы вышэйшай адукацыі. Актыўная русіфікацыя пачынаецца ўжо на этапе ўступных экзаменаў: усе дапаможнікі для абітурыентаў выдадзены і выдаюцца на расійскай мове, білеты для абітурыентаў афармляюцца ў расійскамоўным варыянце. Захоўваецца сітуацыя, калі пад час навучання ў ВНУ студэнт можа ўвогуле не сустрэцца з беларускай мовай, асабліва што датычыць тэхнічных і прыродазнаўчых спецыяльнасцяў. Даходзіць да абсурду: нават гісторыя і культура Беларусі ў некаторых ВНУ чытаецца па-расійску. Тая невялікая колькасць беларускамоўных плыняў, якія існавалі намаганнямі асобных выкладчыкаў, актыўна знішчаецца. Спынены выпуск падручнікаў па прыродазнаўчых і тэхнічных спецыяльнасцях, падрыхтаваных да выдання на беларускай мове (у 1996 годзе ніводны з іх не выдадзены). Планаваная на 1995 год Калегія Міністэрства адукацыі і навукі па пытаннях вышэйшай адукацыі па-беларуску так і не праведзена.

Нягледзячы на тое, што на сённяшні дзень каля трэці вучняў навучаюцца ў сярэдніх школах з беларускай мовай, у дзяржаве не вядзецца ніякай падрыхтоўчай працы, каб забяспечыць ім права прадоўжыць навучанне па-беларуску ў вышэйшых навучальных установах. У Беларусі няма ніводнае (!!!) ВНУ з беларускай мовай навучання, і гэта пры тым, што ў краіне амаль 80 % насельніцтва — этнічныя беларусы. Немагчымасць працягваць адукацыю па-беларуску ў вышэйшых навучальных установах ёсць асноўная прычына, чаму пры выбары мовы навучання ў 1-м класе бацькі выбіраюць для свайго дзіцяці расійскую мову.

Аналага дыскрымінацыйнага стану з адукацыяй у Беларусі няма ні ў адной былой рэспубліцы СССР і ні ў якой іншай краіне свету. Прыгадаем, што нават пад час нямецкай акупацыі беларусам забяспечвалася права адкрываць беларускія сярэднія і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

У студзені 1997 года інфармацыя пра парушэнне правоў чалавека ў гэтай сферы пададзена ў камісіі Савета Еўропы і АБСЕ пад час іх працы ў Беларусі.

Кіруючыся Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь, міжнароднымі прававымі актамі, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны **патрабуе:**

1) адкрыць ва ўсіх абласных цэнтрах на базе вядучых навучальных установаў Беларускія нацыянальныя універсітэты;

2) падрыхтаваць і выдаць беларускамоўныя падручнікі па ўсіх дысцыплінах вышэйшай школы (для чаго распрацаваць дзяржаўную праграму "Беларускі падручнік");

3) у кожнай ВНУ сфармаваць беларускамоўныя студэнцкія плыні (асабліва на прэстыжных спецыяльнасцях і на этапе паступлення ў ВНУ);

4) змест экзаменацыйных білетаў для ўступных экзаменаў падаваць на дзвюх мовах;

5) выдаць на беларускай мове дапаможнікі для абітурыентаў;

6) улічваючы занядбаны стан беларускай мовы, аднавіць абавязковы ўступны экзамен па беларускай мове;

7) забяспечыць вывучэнне беларускай мовы і беларускай літаратуры як дысцыплінаў ва ўсіх ВНУ;

8) паўсюдна перавесці выкладанне гісторыі і культуры Беларусі, а таксама іншыя гуманітарныя дысцыпліны на беларускую мову;

9) усіх выкладчыкаў ВНУ атэставаць на веданне беларускай мовы і пры неабходнасці забяспечыць ім магчымасць павышэння кваліфікацыі ў гэтым;

10) на педагагічных спецыяльнасцях ВНУ лічыць абавязковай атэстацыю студэнтаў на педпрактыцы як у расійскамоўных, так і ў беларускамоўных школах;

11) правесці спецыяльную Калегію Міністэрства адукацыі, прысвечаную пытанням пашырэння беларускамоўнага выкладання ў ВНУ.

Патрабаванні пунктаў 1-3 пададзенага спісу ўключаны ў падпісныя лісты для збору подпісаў грамадзян Беларусі. На сённяшні дзень сабрана ўжо некалькі тысяч подпісаў. Беспрэцэдэнтная акцыя будзе працягвацца да таго часу, пакуль беларусам не будзе забяспечана права на непарыўную адукацыю ў роднай мове.

Спадзяёмся, што да чарговага з'езда ТБМ, які адбудзецца 12 красавіка 1997 года, мы зможам атрымаць станоўчую інфармацыю наконт вырашэння ўзнятых пытанняў.

*З рэдакцыйнай пошты*

## BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc. БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

230 Springfield Ave.,
Tel.: (201) 933-6807
Rutherford, N.J. 07070 Fax: (201) 438-4565
22 лютага 1997 г.

Высокашаноўны спадар рэдактар!

Як ужо вось колькі гадоў з прыемнасцю разгортваем кожны нумар Вашае газэты і заўсёды знаходзім там і шмат новага, і важнага, і цікавага. Вітанне за гэта Вам і Вашаму калектыву!

З цікавасцю чытаўся ў "Слове" аўтарытэтны артыкул-агляд спадара Алеся Жлуткі аб перакладах "Песні пра зубра". На жаль, аўтар, відаць, не ведаў, што пераклад гэтага твору Натальляй Арсенневай быў зроблены даўнавата, але прост з тэхнічных прычынаў не быў выдрукаваны аж да 1996 году. У верасні ж летась пераклад "Песні пра зубра" Наталлі Арсенневай быў надрукаваны ў 22-м выпуску Запісаў БІНІМУ.

Пакольку мы не маем адраса спадара Жлуткі, а ён, як лацініст, да гэтага твору можа яшчэ вяртацца, то праз Вас просім перадаць ці пераслаць спадару Жлутку 22-і выпуск Запісаў з перакладам Наталлі Арсенневай "Песні пра зубра". Іншы экзэмпляр гэтага выпуску Запісаў, як і апошнюю кнігу ў серыі БІНІМУ "Беларускія пісьменнікі і паэты" (Юрка Віцьбіч) перасылаем Вам для Вашых кнігазбораў.

Будзем шчыра ўдзячныя за выкананне нашае просьбы.

Просім перадаць прывітанне Вашаму калектыву ды ад Зоры, мяне ды спадарства Запруднікаў.

З шчырым прывітаннем і пашанай за ўправу БІНІМУ

Вітаўт КІПЕЛЬ.

*З нагоды*

## БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ: НАПЕРАДЗЕ ПАДЗЕЛ?

*З часу знішчэння манаполіі савецкага ВЛКСМ моладзь нашай краіны яднала дзесяткі арганізацыяў рознай палітычнай, ідэалагічнай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай і грамадскай арыентацыі. Наогул, ці можа існаваць у размежаваным грамадстве нашай краіны адзіны маладзёвы рух? Як не дзіўна, ёсць людзі, гатовыя даць на гэтае пытанне станоўчы адказ. Гэтая публікацыя прысвечаная разгляду дзвюх спробаў аб'яднання маладых беларусаў у межах буйных агульных структураў.*

**"Яднанне беларускіх нацыянальных арганізацыяў па ўсім свеце будзе яшчэ адным крокам да таго, каб зрабіць нашую Бацькаўшчыну больш свабоднай"**

Першая сустрэча беларускай моладзі свету адбылася амаль тры гады таму. З таго часу існуе яе выканаўчы камітэт, у які ўваходзяць прадстаўнікі Задзіночання беларускіх студэнтаў, Аб'яднання беларускіх скаўтаў ды маладзёвай фракцыі БНФ.

Удзельнікамі камітэта ўжо рабілася некалькі спробаў (апошняя — летась у лістападзе) сабрацца дзеля таго, каб вызначыць час і месца правядзення новага з'езда, яго мэты, магчымы склад удзельнікаў. На жаль, значных вынікаў гэтыя спробы не далі. У канцы студзеня гэтага года газета "Беларуская маладзёжная" апублікавала заяву, у якой гаварылася: у час лістападаўскай сустрэчы ўдзельнікаў выканаўчага камітэта Першай сустрэчы беларускай моладзі свету рашэння аб месцы і часе правядзення новай сустрэчы беларускай моладзі прынята не было.

Адсутнасць плённай дзейнасці камітэта выклікала слушную занепакоенасць прадстаўнікоў іншых арганізацыяў, бо такім чынам ставілася пад пагрозу самая ідэя правядзення новай сустрэчы. Каб вырашыць гэтую праблему, у канцы 1996 года прадстаўнікі найбольш уплывовых арганізацыяў моладзі ўтварылі новы арганізацыйны камітэт

На прэс-канферэнцыі, наладжанай удзельнікамі новага аргкамітэта, **Алесь Касач** — прадстаўнік маладзёвай арганізацыі БНФ і каардынатар арганізацыйнага камітэта, паведаміў: 16 снежня 1996 года прадстаўнікамі 14 маладзёвых арганізацыяў, суполак і маладзёвых фракцыяў палітычных партыяў Беларусі — Маладой Грамады, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Сялянскай партыі, Нацыянал-дэмакратычнай партыі, Беларускай нацыянальнай партыі, Згуртавання беларускай шляхты, Аб'яднання беларускіх скаўтаў, Беларускай партыі свабоды, "Чырвонага жонду", Свабоднага прафсаюза студэнтаў, Беларускай каталіцкай грамады, прадстаўнікоў епархіі Беларускай народнай праваслаўнай царквы ды іншых — утвораны арганізацыйны камітэт Другой сустрэчы беларускай моладзі свету.

Як вядома, арганізатараў першай падобнай сустрэчы напаткалі шматлікія перашкоды, якія стваралі ім урадавыя чыноўнікі. Менавіта таму аргкамітэтам Другой сустрэчы моладзі было вырашана правесці яе ў іншай дзяржаве, а дакладней — у сталіцы суседняй Летувы. "*У Беларусі яна не можа адбыцца*", — заявіў на прэс-канферэнцыі сябра аргкамітэта Алесь Касач.

(Заканчэнне на стар. 2.)

## Руплівіца Ларыса

**(Добрае слова пра шчырую беларусачку)**

Ёсць у Мазыры гарадская бібліятэка імя Пушкіна. А ў бібліятэцы — краязнаўчы аддзел. Ачольвае яго — ваба вачэй Ларыса Савенка. Інтэлігентная, працавітая дзяўчына адмыслова рыхтуе штомесяц спатканні аматараў беларускай паэзіі, гісторыі, культуры. Працаўнікі заводаў, вучэльняў, лякарняў, студэнты, вучні, пенсіянеры — усе ўхвальна слухаюць цікавыя паведамленні Ларысы пра Палессе і яго жыхароў. Нязмушаная беларуская гамонка аздабляецца аматарскімі чытаннямі вершаў, замалёвак. Да душы прыходзяцца агляды часопісаў "Полымя", "Маладосць", газет "Наша слова", "Літаратура і мастацтва", "Звязда". Абмен думкамі дае плён. Прыемна пачуць роднае слова ў вершах доктара Аляксандра Гародкі, апавяданнях журналіста Генадзя Шарая, перасмешках пенсіянера Івана Казелькі.

Ад імя ўдзельнікаў гурта "Вітальня"

**Мікола ЗАСІНЕЦ.**

г. Мазыр.

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

**НАША СЛОВА**

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУПІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Кампутарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Кампутарны набор**: Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ: НАПЕРАДЗЕ ПАДЗЕЛ?

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

Ідэя правядзення новай сустрэчы за мяжою ўзнікла ў лістападзе 1996 года, калі з візітам у Менску пабываў старшыня Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў. Удзельнікі іншых арганізацыяў моладзі атрымалі ад яго прапанову правесці наступную сваю сустрэчу ўлетку 1997 года ў Вільні. З гэтай прапановаю пазней пагадзіліся ўсе сябры аргкамітэта. Але, на жаль, адзінства ў маладзёвым руху дасягнуць не ўдалося. Як было паведамлена на прэс-канферэнцыі, дзве арганізацыі моладзі — Задзіночанне беларускіх студэнтаў і Аб'яднанне беларускіх скаўтаў — выказалі нязгоду з пазіцыяй арганізатараў і запатрабавалі правядзення сустрэчы на тэрыторыі краіны, хай нават не абавязкова ў сталіцы.

Гэта не стала перашкодаю дзейнасці аргкамітэта. Была сфармаваная група, якая распрацавала праекты асноўных дакументаў сустрэчы — праграму, зварот да беларускіх арганізацыяў замежжа, план працы аргкамітэта ды іншыя. На думку арганізатараў, сёлета ўжо пачаўся адлік часу да пачатку сустрэчы і зроблена для таго шмат. Плануецца разасла́ць 835 дэлегацкіх запрашэнняў не толькі ў Беларусь, але і ў 26 іншых краінаў свету, дзе пражываюць беларусы. Згуртаванне беларускай моладзі Віленшчыны, віленскае Таварыства беларускай культуры і іншыя беларускія арганізацыі Летувы вядуць з урадавымі структурамі гэтай краіны перамовы, спадзеючыся атрымаць дазвол на бязвізавы ўезд у краіну ўдзельнікаў з'езда, — паведаміў журналістам старшыня прэс-службы Згуртавання Беларускай моладзі Віленшчыны **Раман Кавальчук**.

— *Мы маем добрыя кантакты з кіраўніцтвам Летувы, якое вельмі прыхільна ставіцца да ідэяў беларускага адраджэння і незалежнасці. Таму мы спадзяёмся атрымаць дазвол на шэсце па Вільні да мемарыяла Каліноўскага, на пікетаванне беларускага пасольства. Мы спадзяёмся, што гарадскія ўлады Вільні дапамогуць нам арэндаваць патрэбныя дзеля правядзення з'езда памяшканні, у тым ліку і Оперны тэатр, у якім можна было б сабрацца ўсім. Мы мяркуем, што, акрамя нарадаў, часткамі канферэнцыі стануць вечарыны, выставы беларускіх мастакоў краю і замежжа, выступленні фальклорных калектываў і бардаў. На другі і апошні дні з'езда запланавана правесці "круглыя сталы" з удзелам не толькі дэлегатаў, але і дзяржаўных дзеячаў Летувы, прадстаўнікоў еўрапейскіх структураў,* — дадаў ён пазней.

На думку новага аргкамітэта, сустрэча мае адбыцца 21-25 ліпеня ў віленскім Оперным тэатры. Магчыма, на ёй будзе выпрацаваная агульная канцэпцыя дзейнасці няўрадавых арганізацыяў беларускай моладзі. "*У змаганні за лепшую будучыню Беларусі, за яе незалежнасць мы хочам аб'яднаць беларускую моладзь і краю, і замежжа. Яднанне беларускіх нацыянальных арганізацыяў па ўсім свеце будзе яшчэ адным крокам да таго, каб зрабіць нашую Бацькаўшчыну больш свабоднай*" — такая думка была выказаная на прэс-канферэнцыі

Аргкамітэт мае і сваю апазіцыю. Задзіночанне беларускіх студэнтаў нагадала аб існаванні першага арганізацыйнага камітэта, які прапанаваў правесці Другую сустрэчу беларускай моладзі свету альбо ў Менску, альбо ў Баранавічах.

Акрамя таго, паведаміў каардынатар арганізацыйнага камітэта, Рада Аб'яднання беларускіх скаўтаў напачатку выказалася ў падтрымку правядзення з'езда ў Вільні і нават вылучыла свайго прадстаўніка — скаўт-канцлера Вадзіма Сугойдзя — у арганізацыйны камітэт. Але, паводле словаў А.Касача, іншы кіраўнік АБС — Кастусь Хадыка — нядаўна заявіў, што Рада АБС быццам бы адмяніла гэтае рашэнне.

— *Сёння,* — працягнуў прадстаўнік новага аргкамітэта, — *мы не маем ні пацвярджэння ўдзелу АБС у падрыхтоўцы сустрэчы, ні афіцыйнай адмовы ад яго. Падобная сітуацыя і з Задзіночаннем беларускіх студэнтаў, кіраўніцтва якога быццам бы падтрымлівае нашую ідэю, але тая частка кіраўнікоў ЗБС, якая брала ўдзел у арганізацыі першай сустрэчы, выказваецца супраць яе.*

— *Хачу зазначыць,* — дадаў ён, — *што ў аснове гэтага супрацьстаяння ляжаць выключна асабістыя амбіцыі часткі лідэраў маладзёвых арганізацыяў, і гэта не ідзе на карысць нашай агульнай справе. Сёння беларускі маладзёвы рух мусіць кансалідавацца.*

— **Які выгляд набудзе структура, што аб'яднае розныя маладзёвыя арганізацыі?** — з гэткім пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, на што атрымаў наступныя адказы:

— *Сёння кожная палітычная арганізацыя займаецца грамадскімі праблемамі, а дзейнасць кожнай грамадскай арганізацыі ў цяперашніх умовах закранае сферу палітыкі. Але новая структура можа паўстаць выключна як грамадская з мэтаю каардынацыі дзеянняў арганізацыяў-удзельніц, дзеля адраджэння беларускага нацыянальнага маладзёвага руху як у Беларусі, так і за яе межамі. Таму найперш яна будзе грамадскім аб'яднаннем,* — адказаў на гэтае пытанне Алесь Касач.

— *На думку Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны, гэтая структура — Саюз беларускай моладзі свету — не можа мець выгляду цэнтралізаванай і аднаасобна кіраванай арганізацыі партыйнага тыпу. У яе Раду мусяць увайсці прадстаўнікі ўсіх без абмежавання беларускіх арганізацыяў замежжа, якія захочуць да яе далучыцца,* — працягнуў ягоную думку Раман Кавальчук.

Першым, да каго наш карэспандэнт звярнуўся пасля прэс-канферэнцыі, быў **Вадзім Сугойдзь**, скаўт-канцлер Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Пазіцыю сваёй арганізацыі ён акрэсліў наступным чынам:

— *У снежні мінулага года на пасяджэнне Рады АБС прыйшоў прадстаўнік маладзёвай фракцыі БНФ Алесь Касач і паведаміў, што частка сяброў нашай арганізацыі выступае супраць удзелу Аб'яднання ў працы арганізацыйнага камітэта падрыхтоўкі Другога з'езда беларускай моладзі свету. Ён спаслаўся на сябра Рэвізійнай камісіі нашай арганізацыі Кастуся Хадыку.*

*Я як кіраўнік АБС падтрымліваю ідэю правядзення з'езда. Што тычыцца нашых сяброў, якія маюць іншыя погляды, дык іх пазіцыю я магу патлумачыць выключна недаверам да арганізатараў з'езда, у прыватнасці, да Задзіночання беларускай моладзі Віленшчыны і яго кіраўніка Валерыя Савянкова, а таксама да лідэраў маладзёвай фракцыі БНФ. На погляд гэтых удзельнікаў АБС, новыя ініцыятары з'езда не здолеюць належным чынам падрыхтаваць і правесці яго.*

*Але я не бачу падставы да спрэчак — адзін прадстаўнік АБС Хадыка не мог вызначыць пазіцыю новага аргкамітэта з'езда ў справе супрацоўніцтва з АБС хаця б таму, што ён не можа прадстаўляць нашую арганізацыю, бо не мае на тое паўнамоцтваў. Ягоныя словы адлюстроўваюць толькі ягоныя думкі. Магчыма, ён ведае пра новы аргкамітэт Другога з'езда штосьці такое, чаму аргкамітэт не хацеў бы надаваць розгалас?*

*Аднак кіраўніцтва АБС перакананае: мы павінны не адрывацца ад руху беларускай моладзі, а наадварот, быць яго складовай часткаю і ўдзельнічаць у яго агульных акцыях.*

Супраць удзелу ў сустрэчы выказалася яшчэ адна арганізацыя — Задзіночанне беларускіх студэнтаў, якая, дарэчы з'яўляецца калектыўнай сябрынай Таварыства беларускай мовы. На жаль, ні яе кіраўнік Алесь Міхалевіч, ні прадстаўнік ЗБС у аргкамітэце сустрэчы моладзі Ігар Тышкевіч не пажадалі сустрэцца з карэспандэнтам газеты ТБМ, каб на яе старонках выказаць свае і сваёй арганізацыі меркаванні адносна ўдзелу гэтай структуры Таварыства ў сустрэчы.

*У час, пакуль дастаткова слабыя і малалікія беларускія арганізацыі высвятляюць, якой з іх належыць першынство ў нацыянальным маладзёвым руху, адбываюцца іншыя спробы яднання моладзі. Прапануем увазе чытачоў навочнае таму сведчанне — падпісаныя першымі асобамі краіны дакументы, якія наперад вызначаюць перспектывы моладзі Беларусі.*

## "Принять меры по объединению в один Белорусский Союз Молодёжи молодёжных организаций, стоящих на позициях конструктивной поддержки государственной политики"

***Президенту Республики Беларусь***
***ЛУКАШЕНКО А.Г.***

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА
15.01.97 №10/388

**О плане мероприятий по созданию в Республике Беларусь влиятельной молодёжной организации**

В соответствии с Вашим поручением от 31 декабря 1996 года Администрацией Президента и Правительством с участием Руководства Белорусского Союза Молодёжи и Молодёжного Союза "Прямое действие" обсуждены вопросы создания в республике влиятельной молодёжной организации, активно участвующей в реализации государственной молодёжной политики.

Для решения этой задачи полагали бы целесообразным осуществить следующие мероприятия:

1. Оказать через местные органы исполнительной власти организационную поддержку в создании первичных организаций Молодёжного Союза "Прямое действие" и других структур объединённого Белорусского Союза Молодёжи.
**Срок: январь-апрель 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Посохов С.А., Подгайный М.В., Позняк А.Г., Янчевский В.В.**

2. Оказать содействие по формированию первичных организаций Молодёжного союза "Прямое действие" в высших учебных заведениях республики.
**Срок: январь-апрель 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П., Стражев В.И., Позняк А.Г., Янчевский В.В.**

3. Принять меры по объединению в один Белорусский Союз Молодёжи молодёжных организаций, стоящих на позициях конструктивной поддержки государственной политики и имеющих достаточное влияние в молодёжной среде (Белорусский Союз Молодёжи, Молодёжный союз "Прямое действие", Лига добровольного труда молодёжи, РАМОТ, Ассоциация клубов "ЮНЕСКО", пионеры, скауты и др.)

В этих целях:

— провести областные конференции по созданию объединённого Белорусского Союза Молодёжи;
**Срок: апрель 1997**
**Отв. Русакевич В.В., председатели облисполкомов, Заметалин В.П., Посохов С.А., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

— провести конференцию студенческих организаций объединённого Белорусского Союза Молодёжи;
**Срок: апрель-май 1997**
**Отв. Стражев В.И., Посохов С.А., Подгайный М.В., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

— провести учредительный съезд (конгресс) по созданию объединённого Белорусского Союза Молодёжи;
**Срок: апрель-май 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П., Посохов С.А., Позняк А.Г.**

— разработать устав, положение, символику объединённого Белорусского Союза Молодёжи;
**Срок: январь-февраль 1997**
**Отв. Посохов С.А., Подгайный М.В., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

4. Представителей Госкомитета по делам молодёжи, объединённого Белорусского Союза Молодёжи ввести в состав коллегий, Министерств и Госкомитетов, занимающихся проблемами культуры, образования, печати, спорта, социальной и чернобыльской сферы, а также в состав руководства фондов Президента Республики Беларусь.
**Срок: май 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П.**

5. Представителей Госкомитета по делам молодёжи, объединённого Белорусского Союза Молодёжи постоянно включать в состав общественных контрольных комиссий по проверке сдачи выпускных экзаменов в школах и вступительных экзаменов в ВУЗы республики.
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П., Стражев В.И.**

6. Пересмотреть структуру и организационно-штатное расписание Госкомитета по делам молодёжи с последующим включением в состав его руководства (в том числе коллегии) руководителей объединённого Белорусского Союза Молодёжи. Представителей Молодёжного Союза "Прямое действие" ввести в общественно-политические и идеологические структуры управления молодёжным движением.
**Срок: январь—март 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П., Посохов С.А., Позняк А.Г.**

7. Изучить вопрос отношений собственности объединённого Белорусского Союза Молодёжи и целесообразности передачи ему помещений, принадлежащих Минжилкомунхозу и Минобразованию. Внести соответствующие предложения Президенту Республики Беларусь.
**Срок: апрель 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Домашкевич Н.Ф., Батура Б.В., Стражев В.И., Позняк А.Г., Доронин С.И.**

8. Обеспечить планомерную информационную деятельность Госкомитета по делам молодёжи и объединённого Белорусского Союза Молодёжи.

В этих целях:

— передать права учредителя газеты "Знамя юности" от Совета Министров Госкомитету по делам молодёжи;
**Срок: до 1.02.1997**
**Отв. Русакевич В.В., Бельский В.П., Позняк А.Г.**

— решить вопросы финансового укрепления газет "Знамя юности", "Чырвоная змена", "Переходный возраст", "Молодёжный курьер". Внести предложения Президенту Республики Беларусь.
**Срок: до 10.02.1997**
**Отв. Русакевич В.В., Румас Н.Ф., Подгайный М.В., Бельский В.П.**

— создать на радиочастоте 101,2 популярную молодёжную радиостанцию;
**Срок: январь-февраль 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Домашкевич Н.Ф., Батура Б.В., Стражев В.И., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

— на белорусском телевидении и радио создать целевые молодёжные передачи с участием в их подготовке представителей объединённого Белорусского Союза Молодёжи и Молодёжного Союза "Прямое действие".
**Срок: февраль 1997**
**Отв.Кисель Г.Л., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

9. Подготовку белорусских команд КВН, деятельность по координации работы неформальных молодёжных клубов, дискотек возложить на Госкомитет по делам молодёжи и объединённый Белорусский Союз Молодёжи (Молодёжного Союза "Прямое действие"). Подготовить необходимые технологические документы для организации этой деятельности.
**Срок: январь-февраль 1997**
**Отв. Посохов С.А., Подгайный М.В., Позняк А.Г., Доронин С.И., Янчевский В.В.**

10. Разработать меры и внести предложения Президенту Республики Беларусь по поддержке пионерского движения в школах республики.
**Срок: январь-февраль 1997**
**Отв. Русакевич В.В., Заметалин В.П., Стражев В.И., Позняк А.Г.**

*Як бачна, пад гэтым дакументам, датаваным 15 студзеня г.г., стаяць подпісы тагачасных намесніка прэм'ер-міністра В. Русакевіча, намесніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі У.Заматаліна ды старшыні Дзяржаўнага камітэта для справаў моладзі А.Пазняка.*

*!6 студзеня Прэзідэнтам Беларусі пасля разгляду гэтых прапановаў быў падпісаны дакумент наступнага зместу:* ***"С мероприятиями согласен. Довести до заинтересованных".***

Для асобаў і арганізацыяў, якія жадаюць наладзіць сувязь з новым аргкамітэтам Другой сустрэчы беларускай моладзі свету, падаём яго адрас: 220005, Менск, вул.Варвашэні, 8, тэлефон-факс 233-50-12.

**Падрыхтаваў У.ПАНАДА.**

# На "Бульвары смеху" жартуюць па-беларуску




Менскі тэатр "Бульвар смеху" яшчэ зусім малады. Дый большасць ягоных актораў — маладыя людзі. Калектыў невялікі. Дырэктар — Валерый Мацкявічус, мастацкі кіраўнік — Генадзь Давыдзька. Мяркую, назва тэатра ўжо сведчыць сама за сябе. І сапраўды: спектаклі камедыйныя. Адзін з іх — "Рок-н-рол на саломе" я паглядзеў нядаўна. Скажу адразу: спектакль не характэрны таму старому афіцыёзу, да якога, відаць, зараз яшчэ шмат хто прызвычаены. Большасць гледачоў "Рок-н-рола на саломе" — дзеці, моладзь. У часе паказу артысты часам звярталіся да публікі, імправізавалі. Спектакль спалучае ў сабе традыцыйны народны гумар і жарты на тэму рэаліяў сённяшняга жыцця. Такі выраз, як "Санта-балота", зноў жа пра многае гаворыць. Аўтары апранутыя то ў нацыянальную сялянскую вопратку, то ў адзенне гараджаніна. Робіцца пагаўнание. Рок-н-рол і народныя скокі... Вясковае жыццё... Менталітэт беларуса... Напэўна дзеці, што сядзелі ў глядзельні, успрынялі паказанае па-свойму. Важна, што і яны атрымалі сваё задавальненне ад чыстага камічных знешніх эфектаў. Дарэчы, некаторым з дзяцей давялося і паскакаць на сцэне з акторамі. Іх туды паклікалі самі артысты. Ствалылася ўражанне, што спектакль у адных месцах выклікае смех у дзяцей, у іншых — у дарослых. Сатыра мяжуе з гумарам. Акторы паводзяць сябе вольна, нязмушана.

Новы час, як вядома, характэрны ломкай старых канонаў, стварэннем новага. Мадэрнізм! Вядома ж, тут не можа быць гаворкі пра ўсеагульнае поўнае прыняцце людзям "Рок-н-рола на саломе". Адзін прымае, іншы спрачаецца. Тым не менш, можна сказаць, што гумарыстычна-сатырычны спектакль удаўся, што вельмі важна. Смяшыць людзей — увогуле рэч няпростая. Але куды складаней гэта рабіць з сацыяльным напаўненнем. "Бульвар смеху", на маю думку, спраўляецца і з такой задачай.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

*З нагоды*

## Беларусы свету павінны сабрацца на сваёй роднай зямлі

Як вядома, Першы з'езд беларусаў свету праходзіў у Менску ў ліпені 1993 года. Мінае чацвёрты год з тае значнай падзеі, калі нашы суайчыннікі, волею лёсу і розных драматычных падзей раскіданыя па свеце, упершыню сабраліся на форум на сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне. Успамінаецца святочная атмасфера з'езда, які праходзіў у зале Вялікага тэатра оперы і балета, выступы вядомых грамадскіх дзеячаў, прадстаўнікоў культуры і навукі. Асаблівую вагу з'езду надавала прысутнасць на ім і выступленне кіраўніка на той час нашай дзяржавы С. Шушкевіча.

Цяпер паўстала пытанне аб правядзенні чарговага з'езда ЗБС, паколькі тэрмін паўнамоцтваў Рады ЗБС "Бацькаўшчына" заканчваецца. Як на гэты раз Радзіма сустрэне сваіх суайчыннікаў з-за мяжы? Можна чакаць, што тае талерантнай атмасферы, якая была пад час правядзення Першага з'езда беларусаў свету, не будзе. Хоць бы таму, што на адрас з'езда і яго ўдзельнікаў у СМІ і публічных выступах прагучала нямала крытычных ацэнак — ажно да зняважальных.

Аб праблемах, звязаных з падрыхтоўкай Другога з'езда ЗБС, гаворыць у інтэрв'ю газеце "Звязда" (№ за 15.09.97) старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" спадарыня Ганна Сурмач. У гутарцы з журналісткай Т. Антонавай яна распавяла, што ў сувязі з набліжэннем тэрміну правядзення чарговага з'езда ЗБС, зважаючы на ўскладненне палітычных абставін у краіне, сярод прадстаўнікоў грамадскасці існавалі розныя меркаванні нават наконт магчымасці яго правядзення ў Беларусі. Былі нават прапановы сустрэцца ў Польшчы ці Летуве альбо ў Смаленску. Але на сходзе Вялікай рады ЗБС большасць удзельнікаў выказалася за тое, што беларусы павінны ўсё ж сабрацца на сваёй роднай зямлі.

Такім чынам, разважае далей кіраўнік Рады ЗБС, пытанне аб тым, праводзіць ці не праводзіць з'езд, не стаіць. Яго абавязкова трэба праводзіць. Хоць за апошнія гады ў самой Беларусі многае змянілася. Як вядома, у дзяржаўных структурах склалася неадназначнае стаўленне да праблем, звязаных з беларускай дыяспарай. Спадарыня Сурмач зазначыла, аднак, што намеціліся і зрухі ў лепшы бок. Так, нядаўна намеснік прэм'ер-міністра РБ У. Русакевіч сустракаўся з кіраўнікамі шэрагу грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку ЗБС "Бацькаўшчыны". Размова ішла аб паляпшэнні інфармаванасці нашых суайчыннікаў за мяжой аб жыцці Беларусі, аб далейшым развіцці дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". А пасля таго, як кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына" накіравала афіцыйны ліст у Адміністрацыю Прэзідэнта, адбылася сустрэча прадстаўнікоў дзяржаўных структур і грамадскіх арганізацый, дзе кожны з бакоў праінфармаваў аб сваёй пазіцыі па гэтым пытанні.

Спадарыня Ганна Сурмач спадзяецца, што згаданай сустрэчай быў распачаты канструктыўны дыялог. Калі дзяржаўныя структуры праяўляюць увагу да пытанняў правядзення з'езда, гэта само па сабе добра. Аднак было б яшчэ лепей, калі б і надалей дзяржава захоўвала карэктны тон у адносінах да ЗБС "Бацькаўшчына" і не спрабавала дыктаваць свае ўмовы. Да прыкладу, кажа Ганна Сурмач, у даволі катэгарычнай форме было выказанае пажаданне, каб з'езд не быў палітызаваны, каб не было крытыкі ў адносінах да дзяржаўных структураў, да палітыкі, што ажыццяўляецца Рэспублікай Беларусь. Спадарыня Сурмач падкрэсліла, што ЗБС — не палітычная арганізацыя, яна не ставіць перад сабой палітычных мэтаў. Але чаму б кіраўніцтву дзяржавы не паслухаць, што скажуць беларусы свету пра свае набалелыя праблемы?

На пытанне аб тым, які паварот падзей у адносінах да прызначанага з'езда можа адбыцца, калі беларускія суполкі адмовяцца ўдзельнічаць у мерапрыемстве, на якое загадзя накладзенае палітычнае табу, Ганна Сурмач адказала:

— Аб сваім рашэнні ЗБС "Бацькаўшчына" праінфармуе дзяржаўныя органы. І тады замест форуму беларусаў свету адбудзецца чыста арганізацыйны з'езд ЗБС і перавыбары кіраўнічых органаў. Але ці будзе такая сітуацыя на карысць Беларусі і беларусам?

**Падрыхтаваў А. ІГНАТОВІЧ.**

*Народная творчасць*

# "Медуніца" з чыстае крыніцы

Фальклорны ансамбль "Медуніца" Палаца культуры ВА "БелАЗ", што ў г. Жодзіна Менскай вобласці, увосень ён адзначыць свой дзесяцігадовы юбілей.

У 1993 годзе "Медуніца" здала нялёгкі экзамен на званне народнага калектыву. У рэпетыцыях пад кіраўніцтвам Алены Губаравай удзельнікі ансамбля знаходзілі сябе, набывалі сваё непаўторнае творчае аблічча. У выніку карпатлівай працы ў рэпертуары "Медуніцы" з'явіўся шэраг сур'ёзных і цікавых нумароў. Напрыклад, абрадавая беларуская кампазіцыя а капэла, шмат новых беларускіх народных песень з музычным суправаджэннем, якія склалі аснову рэпертуару і прынеслі калектыву поспех. Правільнасць узятага накірунку ў творчых пошуках пацвердзіў удзел "Медуніцы" ў пачатку мінулагодняга лета ў юбілейных урачыстасцях горада Барысава, калі ансамбль удала выступіў у вялікай канцэртнай праграме разам з іншымі гуртамі мастацкай самадзейнасці з розных гарадоў Беларусі.

Творчасць гэтага самадзейнага калектыву цалкам грунтуецца на энтузіязме. Можа, гэта і дазваляе яму вырашыць складаныя задачы па ўдасканаленні выканаўчай тэхнікі і ў фармаванні рэпертуару.

— Мы працягваем ісці ў накірунку, выбраным і вызначаным з самага пачатку, — гаворыць Алена Губарава, — ва ўсякім разе, вызначаным для мяне як кіраўніка: выконваць менавіта беларускія песні ў той інтэрпрэтацыі, якая найбольш набліжае іх да першакрыніцы — у сэнсе традыцыйнай у народзе формы выканання і ў сэнсе адэкватнасці фальклорна-этнаграфічным нацыянальным асаблівасцям. І калі гаварыць пра нейкую карэкціроўку манеры выканання, дык за апошнія гады гэты накірунак проста вызначыўся выразней, і мы наўпрост звярнуліся да абрадаў.



На сённяшні дзень у "Медуніцы" даволі багаты і своеасаблівы рэпертуар. Яго ўдзельнікі з душой выконваюць народныя лірычныя, карагодныя песні, абрадныя кампазіцыі. Кожны год у ліпені ансамбль выступае з вялікай купальскай праграмай, потым з калядным і тройцкімі абраднымі кампазіцыямі. Кіраўнік і калектыў не баяцца пошукаў, эксперыментаў — гэта перавага маладосці і прыкмета творчай натуры кожнага з удзельнікаў. Песні з рэпертуару ансамбля не знаходзяцца ў раз і назаўсёды заштампаваным выглядзе, яны "даводзяцца", удасканальваюцца, непрыкметна змяняючы сваю афарбоўку. Так працаваць складаней, але гэты працэс радуе, захапляе не толькі яго ўдзельнікаў, а і гледачоў, і не толькі ў роднай беларускай стыхіі.

Прыгадваецца, да прыкладу, нядаўні выпадак, калі вечарыну ладзіў у гонар свайго прадпрыемства адзін з самадзейных калектываў Украіны, на якую запрасілі і жодзінскіх артыстаў разам з дэлегацыяй Беларускага аўтазавода. Было ўсё як належыць — сяброўскае застолле, размовы, песні ў выкананні гаспадароў і гасцей. І вось "Медуніца" заспявала "Туман ярам", і тут нешта адбылося, нібы лоўна змянілася ў атмасферы свята. Галасы ў выканаўцаў раслі і разгаліноўваліся, і ў гэтым была нястрымная сіла і зачараваная прыгажосць, якая прымусіла залу затаіць дыханне, а потым пачаць пасіху падпяваць.

Тут гаворка ідзе не пра тэхніку выканання, а пра ўзровень на парадак вышэй, калі кажуць — "душа спявае".

Усе ў "Медуніцы" па-добраму ганарацца сваім калектывам, ягонай згуртаванасцю. Усе тут здольныя, адораныя ад прыроды людзі. Можна гаварыць асобна пра таленты кожнага з удзельнікаў, напрыклад, пра тое ж наўдзіў гнуткае і шматварыянтнае па тэмбры і дыяпазоне сапрана саліст Тамары Гойчык, пра дадзеныя іншых вакалістаў і музыкаў. Але ансамбль — не проста сума вартасцяў удзельнікаў, а больш тонкая і складаная структура, асабліва ў фальклорнай творчасці. Тут поспех залежыць не толькі ад індывідуальнага майстэрства, але ў многім ад здольнасці кожнага выканаўцы арганічна ўліць свой голас, голас музычнага інструмента ў агульную гармонію песеннай поліфанічнай плыні.

**Алена ЗЯНКЕВІЧ.**

г. Жодзіна.

## Крымінал-дайджэст

### Дастраляўся...

На жаль, зноў даводзіцца гаварыць пра цяжкія наступствы п'янства. У мястэчку Болбасава каля Оршы ў рэстаране група гасцей з Каўказа адзначала дзень нараджэння земляка. Вядома ж, не толькі з нарзанам. Мясцовы жыхар Н. таксама зазірнуў у той рэстаран, а праз некаторы час паміж ім і некаторымі з каўказцаў усчалася бойка. Паколькі перавага аказалася на баку гасцей, Н. даволі хутка быў выкінуты на вуліцу. Раз'юшаны "паразай", Н. пабег дадому і вярнуўся з паляўнічай стрэльбай. Адзін з каўказцаў, які ў гэты момант аказаўся на ганку рэстарана, і стаў "мішэнню" для прыгнага да "помсты" Н. Двума стрэламі каўказец быў паранены, Н. для куражу стрэліў яшчэ і ў паветра, але ў рэстаран больш не імкнуўся і пайшоў задаволены дахаты. А праз каторы час з Оршы па выкліку мясцовага інспектара міліцыі прыехала аператыўная група і падступілася да кватэры Н. Той на прапанову адчыніць дзверы адказаў лаянкай. Тады аператыўнікі вырашылі распачаць штурм. Двое міліцыянераў з разгону ўдарылі ў дзверы і тыя зляцелі з завесаў. У адказ з прыхожай грымнулі два стрэлы з ружжа. Двое міліцыянераў былі параненыя, адзін з іх, як потым аказалася, смяротна. З табельнай зброі паранілі і Н., пасля чаго абяззброілі і затрымалі.

Віцебскі абласны суд разглядаў гэтую справу больш за тыдзень. Н. не прызнаў, што страляў менавіта ў міліцыянераў, думаў, казаў ён, што гэта ломяцца ў кватэру каўказцы, каб адпомсціць, і баяўся за сям'ю. Суд прыгаварыў Н. да 15 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму.

### Выпіў, закурыў, заснуў...

У Менску ў доме па праспекце Ф. Скарыны а палове шостай раніцы жыхары кватэры на першым паверсе адчулі, што над іх галовамі столь перагрэваецца ў гарачую патэльню, а ў пакоях поўна дыму. Аказалася, сусед з другога паверху па п'янай справе нарабіў пажару. Калі ў ягоную кватэру дабраліся пажарныя, яны знайшлі 55-гадовага гаспадара нежывым. Прычына, як высветліла следства, трывіяльная для нашага часу: злоўжыванне алкаголем. П'яны закурыў, з непатушанай цыгарэтай заснуў, ну, а вынікі аказаліся ўрэшце трагічнымі.

### Надта многа наручнікаў

У апошнія гады ў паведамленнях пра крымінальныя злачынствы даволі часта сустракаецца такая дэталь: пры нападзе на ахвяру былі ўжытыя наручнікі. Фігуруюць яны і ў гэтай гісторыі. У аддзел міліцыі Ленінскага раёна Менска звярнулася 39-гадовая жанчына. А палове шостай вечара на яе ў пад'ездзе дома напалі двое невядомых і, пагражаючы нажом, знялі з яе пясцовае футра. Затым, застрашыўшы жанчыну ды прыкаваўшы наручнікамі да парэнчаў лесвіцы, грабежнікі селі ў аўтамабіль пацярпелай і зніклі.

### Аперацыя "Поезд"

Беларуская транспартная міліцыя наладзіла цеснае ўзаемадзеянне з украінскімі, расійскімі і малдоўскімі калегамі. Адным са станоўчых вынікаў гэтага было правядзенне шырокамаштабнай аперацыі "Поезд". У ходзе яе ажыццяўлення на вакзалах, станцыях і паўстанках быў затрыманы 721 дробны хуліган і больш за тысячу парушальнікаў правапарадку па розных артыкулах. Затрымана таксама 15 злачынцаў, якія былі аб'яўленыя раней у вышуку.

**Падрыхтаваў У. ВЕРАБЕЙЧЫК.**

Згадкі

# “Будуць людзі цябе шанаваці”

## (Да 110-годдзя з дня нараджэння Алеся Гаруна)

*“Алесь Гарун — паэт самабытны, наскрозь арыгінальны і без жаднага надворнага ўплыву. Верш яго звонкі і чысты, як крышталь. Кожнае слова верша займае сваё месца, і ўсе творы яго напісаны так, што ў іх, дапраўды, словам цесна, а думкам прасторна. “Матчын Дар” — адмысловы падарунак у скарбніцу беларускай літаратуры, каторы надаў бы гонару прыгожаму пісьменству і высокакультурнага народу”.*

**Язэп Лёсік. “Алесь Гарун. Матчын Дар”.**
(З газеты “Вольная Беларусь”).

### Памылка даследніка

Як вядома, Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі — будучы класік нашай літаратуры Алесь Гарун нарадзіўся ў Новым Двары (зараз гэта тэрыторыя Менска), але ён амаль па ўсіх царскіх дакументах праходзіць як селянін з вёскі Падстарынне, што дала літаратурнаму даследніку Уладзіміру Казберуку ў сваім нарысе “Церневыя і лаўровыя вянкі Алеся Гаруна” (Гарун А. Сэрцам пачуты звон: Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка, Мн.: Маст. літ., 1991) зрабіць такую выснову: “...бацька Алеся Гаруна Уладзімір Каятанавіч паходзіў з вёскі Падстарынь Стваловіцкай воласці Навагрудскага павета (сёння Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) і ўвесь час быў прыпісаны да яе, хоць жыў у Мінску”.

Вось прыпісванне У. Казберука Алеся Гаруна Івацэвіцкаму раёну (гэта ён робіць і ў іншых сваіх творах, прысвечаных паэту. — **М. М.**), шчыра кажучы, мяне вельмі ўразіла і здзівіла. Я даўно заўважыў, што частка даследнікаў бярэ толькі тое, што ляжыць на паверхні.

Так, шаноўны Уладзімір Міхайлавіч моцна памыліўся з Івацэвіцкім раёнам. Для гэтага мы яшчэ раз праглядзім “Посемейный список деревни Подстаринья Дорогобыльского сельского общества Стволовичской волости Новогрудского уезда Минской губернии”, у якім запісаны амаль усе родзічы Алеся Гаруна. Я спецыяльна з'ездзіў ва ўсе тры гэтыя сённяшнія вёскі — Стваловічы (зараз Сталавічы), Падстарынне (цяпер Пастарынне), Драгобыль (так і заставалася ёю). Усе гэтыя населеныя пункты побач і, больш таго, на могілках (як “рускіх”, так і “польскіх”) спачываюць шматлікія Прушынскія...

Дык удакладнім і ўслед за Наталляй Мазоўскай (“Шляхам гадоў”, Менск, “Мастацкая літаратура”, 1990) скажам: “І далей ва ўсіх дакументах А. Прушынскі называецца селянінам вёскі Падстарынне. Цяпер гэта вёска Пастарынне Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Менавіта тут карані Алеся Гаруна”.

### Падстарынне— Пастарынне — месца дзяцінства Алеся

У Максіма Гарэцкага пра класіка беларускай літаратуры чытаем: “Рабіў усё, што рабілі брацельнікі, пасвіў коней, ганяў авечак, вазіў гной і г. д.”, а адбывалася гэта ў адным з найстаражытных вясковых пасяленняў Беларусі ў Падстарыннях, з якіх з цягам часу ўлады выкінулі літару “д”, і сталі яны пасля гэтага кастрыраванымі Пастарыннямі. Вёсцы ў 1996 годзе споўнілася 525 гадоў, як яна ўпершыню ўпамінаецца ў знойдзеных дакументах. Падзеі, якія адбываліся ў ёй, мабыць, потым у Алеся Гаруна ўклаліся ў запамінальныя вершы, такія, як “Хатка”:

*Там, дзе сумна, з краю бора*
*Ў тры ваконцы свеціць хатка,*
*І з лясной травой гавора*
*Буракоў і бульбы градка...*

У 1936 годзе ў Падстарыннях адбыўся моцны пажар, які знішчыў вялікую частку “Засценка” (якраз тутака і жыў маленькі Алесь), а яшчэ раней, у Першую сусветную вайну, былі знішчаны царква і капліца каля “рускіх” і “польскіх” могілак. Разам з імі пачала адыходзіць ад людзей памяць і пра Алеся Гаруна, і пра гісторыю вёскі...

### Чужыя людзі ў Пастарыннях, чужая школа

Браніслава Міхайлаўна Лапкоўская (дзявочае прозвішча Прушынскай) з роду Алеся Гаруна, энтузіяст прапаганды творчасці свайго знакамітага продка, якая стварыла ў сваім дамку невялічкую экспазіцыю яго твораў, запрасіла мяне на паездку ў вёску Пастарынне, дзе яна нарадзілася, каб расказаў вяскоўцам аб 525-годдзі паселішча і надыходзячай 110-й гадавіне з дня нараджэння Алеся Гаруна. Я з вялікай радасцю даў згоду і папрасіў Браніславу Міхайлаўну, каб яна патэлефанавала родзічам і ў школу аб нашай паездцы. Яшчэ я прасіў, каб грамадскасць вёскі ўсталявала ў Пастарыннях камень, прысвечаны юбілею паселішча, да яго пасадзіць алею ў гонар Алеся Гаруна, а на месцы хаткі, дзе ён жыў і гасцяваў, усталяваць помны знак...



**Алесь Гарун і Янка Купала ў** Менску (1920 г.)

Як я пераканаўся, што чужыя людзі жывуць у гэтай вёсцы, чужыя настаўнікі і школа ў ёй, бо нават сам дырэктар вучэльні перапужаўся ад усяго гэтага... Гаварыў, што будзе тэлефанаваць у сельсавет і ў раён...

Прызнаюся, што да такой з'явы, як абыякавасць, я ўсё не магу прывыкнуць. Як і да таго, што ў базавай школе ў Пастарыннях на дзень нашага мерапрыемства не было нават партрэта А. Гаруна (пра такую незвычайную акалічнасць перад гэтым за шмат месяцаў я надрукаваў шэраг матэрыялаў у Менску і ў Бярэсці), мабыць, яго няма і сёння.

Не з'явіўся ў вёсцы ні камень, ні алея, ні помны знак, але мы ўсё ж выступілі ў школе, і з дзеткамі ў нас атрымалася цудоўная і павучальная размова, большыня навучэнцаў за віктарыну атрымалі ад нас імянныя падарункі. Перад заходам у вёску я сказаў, нібы гледзячы ў ваду, Лапкоўскай і Раманчук, што ім нават за іх дабрадзейнасць не ўручаць кветак — так і атрымалася... Але ўсё ж я набраў палявых кветак і зрабіў ім сціплую ўзнагароду.

### Капанікі — першае месца творчасці Алеся Гаруна

Капані — выміраючая вёска пад такой назвай знаходзіцца ў Вялікалуцкім сельсавеце, што на Баранавіччыне. Яна мае сваю назву ад слова “капань” — кар'ер для здабычы пяску, гліны і інш. Для нас гэтае паселішча цікавае тым, што да Першай сусветнай вайны побач знаходзілася некалькі хат, якія мелі назву Капанікі. Магчыма, адсюль будучы класік беларускай літаратуры Алесь Гарун і даслаў у Вільню свой першы твор “Мае коляды”:

*Быў калісьціка час—*
*І ў мяне, як і ў вас,*
*Што я быў маладым*
*Ды так ў меру — дурным...*

А гэтыя словы я ўзяў з кнігі паэта “Сэрцам пачуты звон” (Менск, “Мастацкая літаратура”, 1991). Паэма апублікаваная ў 1920 годзе ў Вільні асобнай кнігай з паметкай: ”Вёска Капанікі, 13 студзеня 1905 г.). Гэта першы вядомы твор Алеся Гаруна.

### Была ў Баранавічах вуліца імя Алеся Гаруна...

Падобна, што нічога святога ў Баранавічах для ўладаў няма. Яшчэ ў 1988 годзе тут прынялі рашэнне стварыць дом-музей першага Двойчы Героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца (ураджэнца Баранавіччыны), а і сёння яго няма. Што цікава і дзіўна, нават дамок, які належаў яго бацьку, улады хацелі прадаць, але тут не праспала гэтыя “клопаты” грамадскасць.

Як напісана ў “Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Брэсцкая вобласць”, 8 верасня 1946 года ў Баранавічах памёр двойчы (адзіны за ўвесь час існавання горада. — **М. М.**) Герой Савецкага Саюза М. Сцепанішчаў. У мінулым годзе якраз споўнілася 50 гадоў з дня яго смерці, а ўлады нават не паруліліся на яго магілу ўскласці кветкі. Што самае неверагоднае, што ўладай у горадзе кіруе не абыхто, а сам камуністычны лідэр. Пры ім з вялікай помпай адбылася яшчэ больш трагікамічная з'ява — частка Піянерскай (падкрэсліваю, пры камуністычным кіраўніку. — **М. М.**) вуліцы атрымала назву бульвара Штакерау. Баранавіцкія ўлады дайшлі да таго, што ў гонар “светлага будучага” скінулі да свайго шляху і святыню беларускага народа — імя Ф. Скарыны.

Мярзотныя і неверагодныя гэтыя перайменаванні, як спачатку вуліцу Алеся Гаруна перарабілі ў вуліцу Элізы Ажэшка, а потым у Максіма Багдановіча, які ў свой час так пісаў пра Алеся Гаруна: “З паэтаў “Нашай нівы” назавем перш за ўсё **А. Гаруна**, ад каторага наша пісьменнасць можа шмат чаго спадзявацца. Лёгкасць і мілазычнасць верша, рупная шліфоўка яго, новае і вельмі пекнае счэпліванне рыфм — усё гэта дужа аздабляе яго паэзію. У дзе-якіх творах спатыкаецца сіла і сціснутасць мовы. Глаўна ж тое, што пры ўсім гэтым А. Гарун ні да каго іншага не падобны, што ён не зрабіўся нічыім “падгалоскам”. Гэта зарука, што нашы надзеі на яго талент не пойдуць намарна”.

І вось надышоў 110-гадовы юбілей Алеся Гаруна. Цікава, як адзначаць гэтую дату ўлады Баранавічаў і Баранавіччыны? Пакуль ніякіх размоў не было ў іх сценах, каб “бязлікую” якую-небудзь вуліцу назваць яго імем, як і пра тое, каб усталяваць яму помнік...

У сувязі з гэтым як не ўспомніць пра ўраджэнца горада паэта Валянціна Таўлая, у гонар якога назвалі самую аддаленую вуліцу (і брудную)... Дзіўнага тут нічога няма. Так улады “шануюць” сваіх творцаў...

Мабыць, усё ж меў рацыю вялікі габрэйскі пісьменнік Шалом-Алейхем, калі пісаў: “Каб ёй згарэць, гэтай станцыі Баранавічы!”

**Міхась МАЛІНОЎСКІ, праваздейны член Геаграфічнага таварыства.**
г. Баранавічы.

Замежжа

## Цана народнай згоды

Нядаўна тры тэлевізійныя праграмы — дзве амерыканскія і адна канадская — паведамілі: тысячы нацысцкіх злачынцаў часоў Другой сусветнай вайны па яе сканчэнні знайшлі прытулак у Канадзе, дзе без бедаў сустрэлі старасць.

У аснову праграмаў былі пакладзеныя факты, на працягу двух апошніх гадоў сабраныя Стывенам Рамба — прыватным дэтэктывам з ЗША. Маючы спісы з некалькіх тысячаў імёнаў, ён адшукаў у Канадзе 157 ваенных злачынцаў. Якім чынам знайшоў ён тых, каго на працягу паловы стагоддзя без поспеху шукалі ўрады многіх краін свету?

Іхнія імёны, якія тыя людзі і не спрабавалі хаваць, ён убачыў у звычайных тэлефонных кнігах. Урад Канады не здолеў зрабіць гэта за пяцьдзесят гадоў.

— Большасць з іх уласнымі рукамі расстрэльвалі людзей, — кажа Рамба, — пра гэта мне расказвалі яны самі.

Спавядаючыся, каты не ведалі, што іхнія словы, запісаныя на магнітафон, робяцца доказамі злачынстваў. Таму іхнія прызнанні былі цалкам шчырымі. Але нават сярод іх вылучыўся Антанас Кенткявічус, які ў гады вайны служыў намеснікам шэфа паліцыі ў адным з гарадоў Летувы. Ён расказаў аб сваім удзеле ў расстрэле пяці тысячаў габрэяў — старых, жанчын і дзяцей.

— Ім загадвалі класціся на зямлю, і яны клаліся, ніхто не чыніў супраціву, усе былі як авечкі, — успамінаў ён.

Наўрад ці людзі з спісу Рамба сталі б шчыраваць, ведаючы, хто з імі гаворыць. Таму ён прыдумаў сабе легенду, прадстаўляючыся прафесарам неіснуючага амерыканскага універсітэта, які піша навуковую працу аб дывізіях СС. Дэтэктыў нават паказваў суразмоўцам сваё універсітэцкае пасведчанне і пакідаў ім у прэзэнт майкі з эмблемамі міфічнага універсітэта.

Як аказалася, у Канадзе хаваліся сотні ваенных злачынцаў, пераважна з Усходняй Еўропы — Латвіі, Летувы, Украіны. Паведамленне аб гэтым, якое прагучала ў папулярнай тэлепраграме “60 хвілінаў”, стала шокам для мноства людзей не толькі ў Канадзе, але і ў Злучаных Штатах, якія маюць з ёй адкрытую мяжу.

— Калі гавораць пра нацысцкіх злачынцаў, якія скінулі форму і ўцяклі, звычайна згадваюць Аргенціну, Бразілію ці Парагвай. Гэтая таямніца — ганьба для Канады, — казаў пазней, не хаваючы здзіўлення, аўтар праграмы Майк Уолэс.

Але застаецца яшчэ адно пытанне: чаму выканаўцаў злачынстваў, якія не маюць тэрміну даўнасці, канадскі ўрад не пераследаваў і папросту не заўважаў, нават дазваляючы 1800 з іх атрымліваць пенсіі вайскоўцаў? Чаму з часу сканчэння вайны з Канады быў дэпартаваны толькі адзін нацысцкі злачынец?

Адказ на яго даў былы прэм'ер Канады Трудо:

— Нацысцкія злачынцы не пераследаваліся таму, што ўрад баяўся абвастрэння адносінаў паміж габрэйскай супольнасцю краіны і супольнасцямі выхадцаў з Усходняй Еўропы, — шчыра сказаў ён гісторыку Ірвіну Абэла. Відавочна, што жаданнем захаваць грамадзянскую згоду кіруецца і цяперашні канадскі ўрад. Адрасаваныя яму просьбы журналістаў даць каментар скандальным тэлепраграмам не былі пачутымі.

Сёлета ў канцы студзеня Антанас Кенткявічус памёр ад старасці. Гэта адбылося ў дзень, калі мела пачацца слуханне справы аб яго дэпартацыі.

## Паўстагоддзя падзелу нацыі

Сярод краінаў антыгітлераўскай кааліцыі, якія выйшлі пераможцамі ў Другой сусветнай вайне, толькі чатыры — Вялікая Брытанія, ЗША, СССР і Францыя — вызначылі пакаранне для Германіі і дзяржаваў — яе саюзнікаў: Балгарыі, Венгрыі, Італіі, Румыніі і Фінляндыі. Але для венграў дзень, якім пяцьдзесят гадоў таму у Парыжы былі падпісаныя адпаведныя дакументы, стаў не часам развітання са змрочным мінулым, а датаю нацыянальнай трагедыі. У гэты дзень мільёны іх апынуліся па-за межамі сваёй радзімы, на землях, якія са згоды дзяржаваў-пераможцаў адышлі да Чэхаславакіі, Румыніі, Балгарыі, Югаславіі і Аўстрыі.

У Другой сусветнай вайне Венгрыя і сапраўды ваявала на баку Германіі. Але ці выключна гэта стала прычынаю падзелу яе тэрыторыі? Паўстагоддзя таму ўсё магло б адбыцца зусім інакш. Аб гэтым сведчаць дакументы, апублікаваныя нядаўна ў Будапешце.

Усё пачалося ўлетку 1940 года, калі Молатаў выклікаў да сябе венгерскага пасла ў Маскве і заявіў яму: СССР патрэбная Бесарабія, а Венгрыі — Трансільванія, і таму неабходна заключыць савецка-венгерскі пакт супраць Румыніі. Венгрыя з грэблівасцю адхіліла прапанову чырвонай Масквы. Праз дзесяць месяцаў, улетку 1941 года, Молатаў паўторна запрасіў венгерскага пасла ў савецкае Міністэрства замежных справаў, каб прасіць яго хаця б на час адкласці абвяшчэнне вайны Маскве. Згодна з апублікаванымі дакументамі, Молатаў за гэта прапанаваў ні больш, ні менш, як выступленне СССР на пасляваенных мірных перамовах на баку і на карысць Венгрыі.

Чарговая жорсткая адмова Будапешта не была забытая Сталіным. Пяцьдзесят гадоў таму на парыжскіх перамовах савецкая дэлегацыя, нягледзячы на супрацьлеглую пазіцыю Вялікай Брытаніі і ЗША, якія разумелі, што гэта можа стаць падставаю будучых этнічных канфліктаў у Еўропе, жорстка настаяла, каб 20000 квадратных кіламетраў тэрыторыі Трансільваніі, населеных выключна венграмі, не трапілі ў склад Венгрыі. У Парыжы дэлегацыі Вялікай Брытаніі і ЗША пратэставалі супраць дэпартацыі новымі ўладамі Чэхаславакіі ў Венгрыю 200000 венграў з паўднёвай Славакіі. Аднак Андрэй Вышынскі — у 30-х гадах — выканаўца сталінскіх “чыстак”, а ў 40-х — выдатны савецкі дыпламат, дамогся ў Парыжы апраўдання дзеянняў прасавецкага чэхаславацкага ўрада. Ён жа як прадстаўнік СССР дамогся перадачы Румыніі венгерскай Букавіны — маста для СССР па дарозе на Балканы. За сваю дзейнасць Вышынскі атрымаў найвышэйшую дзяржаўную ўзнагароду Румыніі.

Публікацыя дагэтуль сакрэтных дакументаў працягваецца, і, безумоўна, яны стануць падставаю для напісання новай гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

## Пад Ленінам — бясплатна

Ён нерухома стаіць, шырока расставіўшы ногі і прыжмурыўшыся, глядзіць удалечыню. Нягледзячы на малы рост, яго заўважаюць: людзі прыпыняюць хаду, шафёры ціснуць на тормаз. Але гэта — не чалавек, а помнік.

Доўгія гады ён стаяў у школе міліцыі горада Горкага. У 1991 годзе Уладзімір Кручкоў — былы сакратар камсамольскай арганізацыі аднаго з гарадскіх заводаў, а цяпер гаспадар аўтамайстэрні ў Маскве — купіў помнік, які міліцыянтам раптам стаў непатрэбным і нядаўна ўсталяваў на даху свайго прадпрыемства, якое цяпер носіць назву “У Леніна”.

Майстэрня прапануе ўласную сістэму скідак. Калі кліент мае партыйны білет камуніста з аплачанымі складкамі, за паслугі ён плаціць на 10 працэнтаў менш. А калі ваш партыйны стаж пачаўся не пазней 1940 года, кіруйцеся да “Леніна” без разважанняў: рамонт вашай машыны будзе зроблены бясплатна.

У адрозненне ад суседняй Расіі, у нашай краіне помнікі правадыру рэвалюцыі з пастаментаў не скідаліся. Магчыма, гэтым і тлумачыцца тое, што ў будынку (як і ў Маскве, адзіным), які ў сталіцы Беларусі ўпрыгожвае Ільіч, бясплатна нічога не даецца.

**Падрыхтаваў У.П.**



***Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!***
***Францішак Багушэвіч.***

*Беларускае адраджэнне*

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Не як садовы ружовы куст, а як вольная шыпшына...

"Балада доўга знаходзілася ў дзікім стане, цвіла не як садовы ружовы куст, а як вольная шыпшына, захоўваючы свой першародны водар"[1]). Гэтымі сваімі асаблівасцямі яна і захапіла рамантыкаў, якія, можна сказаць, упершыню па-сапраўднаму адкрылі народную баладу, і гэта было як прадвызначэнне яе далейшага жанравага лёсу.

Еўрапейскі рамантызм у сваім творчым імкненні абнавіць літаратуру, пазбавіць яе ад амярцвелых і склератычных канонаў класіцызму, празмерна рацыяналістычных канцэпцый Асветніцтва заўважыў у народнай баладзе падарунак сэрцу, пачуццю і мове.

Ужо рамантыкі пераканаліся, што не ўсё ў жыцці прадвызначаецца асобай чалавека, яго розумам. У жыцці шмат трагічнага і таямнічага, перад чым чалавек бездапаможны, і шчасце і дабрабыт не кожнаму наканаваны лёсам. Яны імкнуліся зазірнуць углыб чалавека, спасцігнуць законы яго душы, знайсці іншыя адзнакі зямнога шчасця.

Жанрам, які найбольш адпавядаў мяцежнаму духу рамантызму, выказванню новай канцэпцыі ўспрымання свету, і была балада. Бацькам літаратурнай балады лічыцца нямецкі паэт Готфрыд Аўгуст Бюргер, які ў 1773 годзе напісаў баладу "Леанора".

Беларуская балада, зразумела, узнікла пазней, недзе ў 20 — 30-х гадах XIX стагоддзя з распаўсюджваннем у Польшчы і Расіі рамантызму.

Напачатку гэта былі беларускія па змесце і па краёвых рэаліях, але ў пераважнасці польскамоўныя творы са шматлікімі адзнакамі эпічнасці, якая выцясняла часам лірыку, што і абумоўлівала іх значны аб'ём.

Але рамантыкі напачатку не столькі стваралі новыя балады, колькі вывучалі і збіралі балады народныя. Як і ў Еўропе, рамантызм на тэрыторыі Беларусі пачаўся з вывучэння мінулага народа, яго гісторыі і сацыяльных умоў жыцця.

Першымі ластаўкамі ў гэтай справе былі працы: артыкул М. Чарноўскай "Перажыткі славянскай міфалогіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Белай Русі"[2]) і даследаванне З. Даленгі-Хадакоўскага "Аб дахрысціянскай славяншчыне".

На думку У. І. Мархеля, апошняя праца, па сутнасці, стала "прадвесцем рамантызму ў польскай паэзіі Беларусі".

Падзвіжніцкая дзейнасць З. Даленгі-Хадакоўскага садзейнічала выхаванню істотна новых адносінаў да вуснапаэтычнай творчасці. Тое ж самае рабілі і філаматы, члены нелегальнага, патрыятычнага таварыства, арганізаванага ў 1817 годзе па ініцыятыве студэнтаў Віленскага універсітэта Т. Зана, А. Міцкевіча, Ю. Яжоўскага, Я. Чачота і інш.

Узмацненню цікавасці філаматаў да народна-фальклорнай спадчыны спрыялі лекцыі выкладчыка літаратуры ў Віленскім універсітэце, ураджэнца Беларусі Л. Бароўскага, які звярнуў увагу на фальклор, "як на адну з багацейшых крыніц, якая дасць літаратуры новае жыццё"[3]).

Узбагачэнне літаратуры за кошт вуснай народнай паэзіі, найперш у высокіх жанрах, было надзвычай плённым, асабліва ў творчасці А. Міцкевіча.

На беларускім фальклоры паэт выхоўваўся з калыскі. Прыгонны Блажэй, які за рэдкае ўменьства казачніка слыў у сям'і Міцкевічаў сапраўдным Улісам, кожны вечар баяў дзетвары аб "сваіх сапраўдных і выдуманых прыгодах самыя незвычайныя рэчы", так што дзяцей пасля проста нельга было ўкласці спаць[4]).

А сваёй любімай служанцы Ганеўскай, якая паходзіла з Вялікапольшчы і паланіла юныя сэрцы народнымі спевамі, будучы паэт абавязаны глыбокаму, на працягу ўсяго свайго жыцця, замілаванню да народнай песні, названай ім "святым скрыжалем", які народ беражэ як сваю моц, сваю патэнцыю і перспектыву[5]).

І вось у 1822 годзе ў Вільні балады А. Міцкевіча выходзяць асобнай кнігай, якая распачала новы, рамантычны напрамак не толькі ў польскамоўнай літаратуры Беларусі і Летувы, але і ва ўсёй польскай літаратуры.

"У сталай славеснасці, — сцвярджаў А. С. Пушкін, — настае час, калі розум, стаміўшыся аднастайнасцю твораў мастацтва, абмежаваным колам мовы вычварнай, абранай, звяртаецца да свежых выдумак народных і да нязвыклага прастамоўя, напачатку пагарджанага"[6]).

Менавіта так была ўспрынятая кніга "Балады і рамансы" А. Міцкевіча літаратурнай грамадскасцю. Пра поспех першага паэтычнага зборніка паэта крытык Ю. Коленбах пазней напіша наступныя словы: "У задыхлую атмасферу ўмоўных, будуарных сентыментаў, прапахлых мускусам Талімены, упалі "Балады", быццам букет апрыскаsuccessful расою вясновых кветак з сельскіх палёў. Ад гэтых майскіх кветак, ад гэтых вясновых пралесак з берагоў Свіцязі, ад водару чарэмхі з кургана Марылі павеяла свежасцю па ўсёй Польшчы"[7]).

На думку У. І. Мархеля, узнікненне самога жанру балады як формы рамантычнай было натуральнай праявай новых літаратурна-грамадскіх патрэб. Рамантызм стварыў своеасаблівы культ фальклору. Паводле сваёй фабулы, кампазіцыі і мастацкіх сродкаў, рамантычная балада стала адным з самых блізкіх да народнай паэзіі жанраў[8]).

[1]) *Воздушный корабль. Литературные баллады. М., 1986, с. 4.*

[2]) *Dziennik Wileński, 1817, s. 396 — 408.*

[3]) *Гл.: Лойка А. А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастр. перыяд, Мн., 1977, ч. І., с. 57.*

[4]) *Czarnocki A. O słowiańszczyźnie przed chrześcianstwen. — Pamiętnik Lwowski, 1819, t. I, s. 17 — 48.*

[5]) *Міцкевіч А. Собр. соч. в 5 т., т. 4. М., 1954, с. 325-326.*

[6]) *Пушкин А. С. Полн. собр. соч. — М.-Л., 1949, т. 11, с. 73.*

[7]) *Mickiewicz Adam. Poezje, выд. III, Кракаў, 1926, т. 1, с. 3.*

[8]) *Мархель У. І. Рамантычны фалькларызм паэтаў-філаматаў. Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. № 4. Асобны адбітак. Мн., 1984, с. 92.*

Павал СЦЯЦКО

***Культура мовы***

# Чарговая бязглуздзіца

***(Пра словы "бяседа" і "субяседнік" у новым Тлумачальным слоўніку)***

Слова "бяседа" ў слоўніках падаецца з значэннем "збор гасцей з пачастункам". І гэта правільна. Прыгадаем з паэмы Янкі Купалы "Курган":

*Раз бяседа вялікая ў князя была:*
*На пасад дачку княжну садзілі;*
*За сталом він заморскіх крыніца цякла;*
*Бегла музыка ўкруг на паўмілі.*
*На вяселле-разгул наплыло, як на сход,*
*Госці знатных зусюль, за паўсвету;*
*Гэткай гучнай бяседы не помніў народ,*
*Гэткіх скарбаў, брыльянтаў, саетаў!..*

Удзельнікаў бяседы называюць словам "бяседнікі". *Бяседнікі ядуць і стравы хваляць* (Якімовіч). З значэннем "бяседнікі" можа выкарыстоўвацца і само слова "бяседа": *Спявала ўжо ўся бяседа* (Сабаленка), такое вызначэнне гэтых словаў бачым у 5-томавым "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (т. I, Мн., 1977, с. 442). У новым, аднатомавым "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996, с. 101), які з'явіўся праз 20 гадоў пасля першага тома свайго папярэдніка, слова "бяседнік" ужо не фіксуецца, а намінацыя "бяседа" падаецца з тым самым значэннем: "Збор гасцей з пачастункам. *Балявала ўся бяседа*". Сінонімам лексемы "бяседа" выступае ў Слоўніку слова "выпіўка". На с. 129 чытаем: "Выпіўка... 2. Бяседа, пачастунак са спіртным". Двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы (т. 1, Мн., 1988, с. 210) падае гэтае слова як адпаведнік чатырох расійскіх лексемаў: "Бяседа ж. — пир, пиршество, банкет; застолье".

Утваральнымі словамі лексемы "субяседнік" якраз і выступаюць разгледжаныя "бяседа" і "бяседнік". Словаўтваральная структура слова "субяседнік" такая самая, што і ў слове "суайчыннік" (су-айчын-нік): су-бясед-нік. І словаўтваральнае значэнне яны маюць тоеснае — 'асоба, якая мае дачыненне да таго, што названа ўтваральным словам'. Вось такую дэфініцыю (апісанне злучэння, зместу паняцця) гэтага слова падаюць слоўнікі: "Суайчыннік... м. Чалавек, які мае з кім-небудзь агульную айчыну" (ТСБМ, т. 5, Мн., 1983, с. 364; ТСБЛМ — Мн., 1996, с. 634). Слова "субяседнік" у адпаведнасці з яго словаўтваральнай будовай вымагае аналагічную дэфініцыю: "Чалавек, які мае з кім-небудзь агульную бяседу", г. зн. агульнае застолле, баль, банкет. Паводле паняццёвага зместу яно адпавядае гутарковаму слову "сабутэльнік". Слоўнік 1996 года тлумачыць яго так: "Сабутэльнік (разм.)... Чалавек, які п'е, п'янствуе разам з кім-небудзь" (с. 579). Дый будова гэтых словаў тая самая (прыставачна-суфіксавае ўтварэнне).

Здзіўляе, як не ўцямілі гэтага ўсе складальнікі новага Слоўніка, навязваючы беларускаму чытачу слова "субяседнік" з неўласцівым яму значэннем суразмоўцы. Сучасная маўленчая практыка выкарыстоўвае з згаданым значэннем некалькі словаў: *размоўца*, яго зафіксаваў яшчэ "Беларуска-расійскі слоўнік" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1926, с. 271): "Размоўца м. — собеседник, інтэрвьюер" (тут, дарэчы, падаецца і *размова* — беседа, разговор, диалог, интервью); *суразмоўнік* як адпаведнік рас. собеседник (Русско-белорусский словарь. Мн., 1993, т. 3, с. 393), *суразмоўца*; яго выкарыстоўвае нацыянальны друк ("Полымя", "Роднае слова", "Наша слова", "ЛіМ" і іншыя выданні). Усе яны маюць той самы корань *-моў-*, *-мов-* (мова, мовіць, размова) і выразна матывуюцца — "той, хто прымае ўдзел у маўленні, размове". Найбольш пашыраным ёсць слова *суразмоўца* — прыставачна-суфіксавае ўтварэнне ад *размова* (су-размоў-ца). Сваім значэннем і выкарыстаннем яно найбольш адпавядае расійскаму "собеседник".

У самой дэфініцыі слова "субяседнік", якую бачым у Тлумачальным слоўніку, выяўляецца ўся бязглуздзіца, недарэчнасць вызначэння семантыкі яго: "Субяседнік... Той, хто *вядзе гутарку, бяседу* з кім-небудзь". Тут выкарыстоўваюцца як раўнапраўныя, тоесныя словы "гутарка" і "бяседа". Але ж слова "бяседа", як мы ўжо пераканаліся, не мае ў беларускай мове таго значэння, што "гутарка". Бяседа — гэта "збор гасцей з пачастункам", інакш: баль, застолле, банкет. А слова "гутарка" ў гэтым жа Тлумачальным слоўніку (с. 162) мае наступную семантычную характарыстыку: "Гутарка, ж. 1. Дзелавая або сардэчная размова. 2. Даклад, паведамленне, звычайна з удзелам слухачоў для абмену думкамі". Дык як можна сумясціць "дзелавую размову, даклад" з баляваннем, банкетам, застоллем? Гэтыя розныя рэчы маюць і свае адмысловыя намінацыі, найменні. Той, хто вядзе гутарку, прымае ўдзел у размове, мае назоў *суразмоўца*, а той, хто прымае ўдзел у бяседзе, — *субяседнік*, г. зн. "сузастольнік", "субанкетнік", "субалявальнік".

Апошнім часам гэтае штучнае для беларускай мовы слова "субяседнік" цягне за сабою і недарэчнае выкарыстанне яго суродзіча — "субяседаванне". У некаторых нядбайных да культуры маўлення аўтараў у газетных абвестках можна прачытаць: "Абітурыенты прымаюцца па выніках субяседавання". Але ж слова "субяседаванне" мае той самы паняццёвы змест, што і "бяседа", г. зн. застолле, банкет, баль. Дзіўна, што іх аўтары, самі таго не заўважаючы, прапагандуюць такім чынам хабарніцтва. А функцыю расійскага "собеседование" бярэ на сябе ўжо згаданае слова "гутарка". Выкарыстоўваючы таксама з гэтым значэннем словы "сумоўе" (як і *сумоўца* з значэннем "суразмоўца") і суразмова (ад яго і ўтворана суразмоў-ца).

***P. S.** Ганарар за артыкул прашу пералічыць на рахунак газеты "Наша слова".*

***Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.***
***Алена ШЧУКА — англійшчына.***

## *Слоўнік сінонімаў*

**ПРАЛІЎНЫ** (пра дождж: вельмі моцны, густы) *Дзве гадзіны цягнулася навальніца, дзве гадзіны ішоў праліўны дождж, што, здавалася, мог заліць які хочаш пажар* (Маўр), **ЗАЛІЎНЫ** *Часам пад вечар у яе / дзяўчыны/ не хапала сіл, каб устаць на ногі, а назаўтра — яна ізноў ішла, ізноў паўзла праз заліўны дождж, праз сцюдзёны вецер* (Дубоўка), **ЯК (або НІБЫ) З ВЯДРА** размоўнае — *І чаму так не бывае, як чалавеку хочацца, як справе яго патрэбна? — прайшоў бы /дождж/ добры, хоць заліўны, як з вядра* (Кавалёў). *Дождж нібы з вядра лінуў* (А. Александровіч), **ЯК (НІБЫ) З РЭШАТА** разм. *Сёння дождж — як з рэшата. /Моцкін:/ — І праўду кажуць: "Бог няроўна дзеліць". У Сярэдняй Азіі цэлае лета пячэ і пячэ, а тут — нібы з рэшата цячэ* (Макаёнак), **ЯК З ЛУБУ** разм. *Дождж, які перад гэтым ліў як з лубу, спачатку падрабнеў, а затым перастаў зусім* (Сіняўскі).

**Праліўны.** Адпаведныя прыметнікі ў англійшчыне **pouring** і **pelting**. Акрамя іх, ужываюцца як акалічнасці размоўныя ідыёмы **in buckets** ("вёдрамі") і **in sheets** (літаральна "прасцінамі"). Можна адзначыць супадзенне матываацыі ў абедзвюх мовах у выпадку з першай ідыёмай. Апрача таго, у англійшчыне існуе яшчэ адзін выраз: **it rains cats and dogs**. Паходжанне гэтай даволі дзіўнай на першы погляд ідыёмы (прычым тут кошкі і сабакі — **cats and dogs**?) наступнае: у паўночнай міфалогіі кошкі сімвалізавалі ведзьмаў, якія выклікалі буру, а сабака быў сімвалам моцнага ветру. Такім чынам, гэты выраз азначаў праліўны дождж з моцным ветрам.

**ПРАЛЛЯ** (жанчына, якая займаецца прадзеннем) *Мастак паказаў на палатне маладую зграбную праллю з доўгай касой* (Ліс), **ПРАЛЯ** дыялектнае *Бывала ў цёмную зімнюю ноч самая позняя праля патушыць агонь у сваёй хаце, а ў Маланні блішчыць акенца ледзь не да дня* ("Беларусь"), **ПАПРАДУХА** устарэлае *У іх /дзяцей/ там такая раскоша, што мімаволі прыслухваецца да іх з таемнай зайздрасцю шчырая дванаццацігадовая папрадуха* (Зарэцкі). *Якая папрадуха пры кудзелі, такое палатно ў белі* (прыказка).

**ПРАЛОМ** (месца, адтуліна, праламаная ў чым-н.) *Віця спачатку лічыў дамы, але спатыкнуўся ў праломе тратуара і ледзь не ўпаў...* (Надзведскі), **ПРАЛОМІНА** разм. *Узяўшы цяжкі жалезны лом, ён /Сілівон/ зрабіў ім некалькі праломін у старым дніўшы* (Лынькоў).

**ПРАЛЯЦЕЦЬ** (пра час, пра што-н., што працягваецца ў часе: хутка прайсці, непрыметна падысці да канца) *У клопатах і працы шпарка праляцелі пяць дзён* (Маўр). *У радаснай творчай працы непрыметна праляцела лета* (Сяргейчык). **ПРАБЕГЧЫ** — *А, як скора прабег час! Здаецца, толькі яшчэ была раніца* (Гартны). *Дарагія мне тыя дарогі, Дзе малепства прабегла маё Непрыкметна...* (Шушкевіч), **АДЛЯЦЕЦЬ** (хутка прайсці) *Праходзіў час, плылі нядзелі. Далёка бежанства, шпіталь. І дні дзяцінства адляцелі* (Колас). *Нават і не заўважыла Ірына, як адляцела бесклапотнае дзявоцтва, з песнямі, з пагулянкамі, познімі карагодамі, з лёгкімі і мінучымі дзявочымі крыўдамі, з вясновымі світаннямі* (Лынькоў), **ЗЛЯЦЕЦЬ** разм. *Кажуць, сем вякоў зляцела, як лісцё увосень з голля, калі тут вайна грымела, на палескім нашым полі* (Дубоўка), **ПРАМЧАЦЦА** узмацняльнае *Як хутка прамчаліся гады! Хто можа не паверыць, што ў гарачай працы непрыкметна, без аглядкі прамчаліся гэтыя месяцы?!* (Грамовіч), **ПРАНЕСЦІСЯ** узмацн. *Няўжо так хутка пранёсся час?* (Даніленка). *Школьныя гады пранесліся неяк незаўважна* (Крыга), **ПРАМІЛЬГНУЦЬ** узмацн. *Паказалася постаць Над акопам варожым, Прамільгнула секунда, і яе ўжо няма* (Броўка). *У размове, у чаканні Мішэля мы і не заўважылі, як прамільгнула, праляцела не такая ўжо і кароткая маёвая ноч* (Сачанка), **ПРАМІГНУЦЬ** дыялектнае, узмацн. *Час, праведзены за межамі завода, прамігнуў, як маланка, нічога не змяніўшы ў Рыгоравым жыцці* (Гартны). *Ноч прамігнула, як хвіліна* (Гартны), **ПРАМІЛЬГНУЦЦА** разм., узмацн. *Як вясновая думка-мара, прамільгнуліся неўзаметку сьвяты* (Мурашка), — *Незак.:* **Праляталь, прабягаць, адлятаць, злятаць, праносіцца.** — *Параўнайце:* 2. Бегчы, Прайсці.

